

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №11 (80)**
**ЛІПЕНЬ 2018 ГОДА**

КУЛЬТУРА

# ФЭСТ БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ТАНЦАЎ

**Панадворак ля клуба ў Сасноўцы цёпла сустрэў гасцей з Віцебска, аг. Ноўка, суседніх вёсак Валасова і Гараднянскі Мох. Тут, на беразе маляўнічага возера, было вырашана правесці першы раённы танцавальны фэст беларускіх народных танцаў з гарэзлівай назвай «Скокі ў Сасноўцы».**

Гаспадарылі ў гэты дзень на танцавальным панадворку ўдзельнікі аматарскага фальклорнага аб'яднання «Жывая спадчына», народны жаночы клуб «Залаты ўзрост» з Мазалава, альгоўскія артысты — выдатныя танцоры і салісты, музыкі з аг. Бабінічы, вёсак Сушчова, Доўжа.

На свяце гучала шмат добрых песень, але ж галоўнае месца занялі танцы: прыгожыя, народныя, з гумарам, весялосцю, каларытнымі назвамі. Кожны жадаючы мог кінуцца ў скокі пад народную музыку з артыстамі Віцебскага раённага цэнтра культуры і творчасці. Яны ж дапамагалі асвоіць асноўныя рухі, а таксама вучылі пачынаючых танцораў правільна трымаць рукі, спіну, не блытацца ў кроках падчас скокаў.

— «Падыспань», «месяц», «яблычка», «сербіянку», «польку», «каробачку», «ленцяя», «кадрылю» танчылі ў Віцебскім раёне яшчэ ў пасляваенныя гады, — расказала намеснік дырэктара Віцебскага раённага цэнтра культуры і творчасці Марына Яско. — А потым усё неяк раптам знікла. Мы па крупельках збіраем беларускі фальклор, ад вёскі да вёскі, ад бабулі да бабулі шукаем рухі, музыку і вельмі імкнемся, каб сёння наша спадчына адраджалася, працягвала сваё жыццё ў святах і абрадах, песнях і танцах, рамёствах, сакрэтамі якіх валодалі нашы дзяды і прадзеды.

Недалёка ад імправізаванага аркестра размясціліся народныя майстрыхі. Настаўніца пачатковых класаў Сасноўскай БШ Святлана Салаўёва дэманструе вырабы з газетных скрутак. Скарбонкі, талеркі і нават парусніківабяць сваёй прыгажосцю і арыгінальнасцю.

У свет футравых цацак запрашае Лілія Астапковіч. Рознакаляровыя зайчаняты і сланы, мядзведзі і вавёркі так і просяцца ў кішэню.

— Ці мае месца ў будучым такое свята? — спытала ў майстрых і пачула сцвярджальны адказ. — Многія народныя танцы даўно забытыя, але такія мерапрыемствы даюць новы штуршок для іх жыцця.

Сапраўды, цяжка не пагадзіцца з тым, што гэты фэст стаў яркай падзеяй для месцічаў. Арганізатары спадзяюцца, што яго правядзенне стане яшчэ адной добрай традыцыяй у раёне.

**Алена Чаплева**
**«Жыццё Прыдзвіння»**



НАШ ЛЕС

# ЖУК-КОРОЕД ПОД КОНТРОЛЕМ

**Засушливое лето приводит белорусские леса к массовому заражению жуком-короедом. О том, как бороться с вредителем, рассказал главный лесничий ГЛХУ «Суражский лесхоз» Александр Москалев.**

Причиной нашествия вершинного жука является выпадение минимального количества осадков, неубранный ветровал, повышенная температура воздуха. Лет короедов начинается, когда столбик термометров поднимается выше 18 градусов трижды в году — в конце апреля, июня и середине августа.

Жук поражает ослабленное дерево, неспособное выделять смолу для защиты. Заражена хвоя или нет определить довольно сложно: насекомое начинает поражать верхние ветки, постепенно спускаясь вниз, а признаком заболевания считается ярко-рыжий цвет кроны. Определить шестизубчатого короеда намного проще — вредитель поражает ствол, оставляя за собой своеобразные «узоры». На одном дереве могут проживать порядка 40 тысяч особей, но недолго. Выбрав ослабленную хвою, самка откладывает яйца под корой и перелетает на другое дерево. Быстро размножаясь, короеды за короткий срок поражают огромные участки леса.

Для борьбы с вредителем специалистами Института леса Национальной академии наук Беларуси был разработан феромон с запахом дерева, использующийся в целях контроля и оценки численности короедов. Так называемая феромонная ловушка выглядит следующим образом: проволочный каркас, обтянутый полиэтиленовой пленкой, к одной из граней которого прикрепляется пластина вискозы, пропитанная феромонами. В приемник ловушки заливается соленая вода, чтобы исключить возможность выползания жуков по стенкам.

— Специалистами лесхоза постоянно проводится феромонный мониторинг, по результатам которого подсчитывается вероятность резкого скачка численности насекомых. Жуки находятся под корой деревьев, поэтому избавиться от них с помощью опрыскивания химическими препаратами невозможно. Единственный способ вылечить насаждения — своевременно вырубить зараженные деревья и сжечь парубочные остатки, лишив насекомых кормовой базы и не дав им разлететься. Данные процедуры должны быть проведены в течение двух-трех недель, — рассказывает Александр Москалев.

Для тех, кто желает заготовить древесину на усыхающих участках, упрощено оформление необходимой документации и предоставлен выбор места вырубки.

— В Суражском лесхозе ситуация с короедом находится под контролем, численность вредителей оценивается как очень низкая, при которой санитарно-оздоровительные мероприятия не требуются, — заключил главный лесничий учреждения.

**Александра Гвоздева**

АДУКАЦЫЯ

# 400 ГАДОЎ ВЫЙШАЎ ПЕРШЫ «БУКВАР»

**24 ліпеня 1618 года нашымі продкамі выдадзена першая ў свеце кніга з такой назвай! Гэта быў «Буквар славянскай мовы», які склалі манахі і выкладчыкі Віленскага праваслаўнага манастыра Святога Духа, а надрукаваны ён быў у мястэчку Еўе пад Вільняй.**

У свеце захаваліся толькі два асобнікі першага «Буквара». Адзін з іх, на жаль няпоўны, знаходзіцца ў Даніі, у Каралеўскай бібліятэцы. А другі (поўны) экзэмпляр — у Вялікабрытаніі, у Бібліятэцы Мідл Тэмпл, якая размяшчаецца ў гістарычным раёне Лондана, дзе некалі мелі сваю рэзідэнцыю знакамітыя рыцары-тамплеры.

Выключная рэдкасць і вялікая каштоўнасць першага «Буквара» зрабілі яго амаль невядомым як для навукоўцаў, так і для шырокай грамадскасці. Амаль ні ў аднаго з беларускіх даследчыкаў раней не было магчымасці ўбачыць «Буквар» на свае вочы. На радзіме ні аднаго асобніка не захавалася: іх проста «зачыталі да дзірак», як часта бывае з вучэбнымі выданнямі.

У 2015 годзе дзякуючы спрыянню брытанскіх беларусазнаўцаў, прафесараў Лонданскага ўніверсітэта ў мяне атрымалася наведаць Лондан і займець доступ да гэтага надзвычай каштоўнага помніка. А сёння з'явілася магчымасць пазнаёміцца і з дацкім асобнікам.

Кніга, якую я меў за гонар не толькі патрымаць у руках, але і заняцца яе больш глыбокім даследаваннем, мае невялікі і зручны для выкарыстання памер — удвая меншы, чым сучасныя выданні «Буквара» — і налічвае крыху больш 100 старонак. Структура выдання вызначалася характарам навучальнага працэсу ў той перыяд. Напачатку вучні вывучалі літары славянскага алфавіта («аз», «букі», «ведзі» і г.д.). Затым яны займаліся складаннем літар у простыя склады з дзвюх літар («букі» + «аз» = ба, «ведзі» + «аз» = ва) і трохлітарныя склады. Нарэшце пасля гэтага вучні спрабавалі складваць са складоў цэлыя словы, а затым — сказы.

Для лепшага запамінання ў кнізе прыводзіцца славянскі алфавіт у звычайным і адваротным парадку, чаго не сустрэнеш у сучасных выданнях. Далей ідуць прыклады складоў з двух, трох, чатырох, пяці і больш літар, прасцейшыя словы царкоўнаславянскай мовы, пералік знакаў прыпынку і лічбаў у адпаведнасці са старажытнай кірылічнай традыцыяй, даюцца некаторыя правілы граматыкі.

Апрача адукацыйных задач «Буквар» быў прызначаны для патрэбаў выхавання, якое ў той час грунтавалася на хрысціянскай сістэме каштоўнасцей. Менавіта з гэтай мэтай ў склад выдання ў якасці важных тэкстаў для чытання ўключаны шматлікія малітвы, рэлігійныя гімны, сімвал веры, Божыя запаветы, прапаведзі, пералік добрых якасцей чалавека і яго грахоў, а таксама шматлікія іншыя маральна-выхаваўчыя тэксты.

Знешняя аздоба выдання моцна нагадвае віленскія выданні Францыска Скарыны.

Нам сёння не вядома, хто быў ініцыятарам і стваральнікам «Буквара». Найбольш верагоднымі аўтарамі ці складальнікамі кнігі з'яўляюцца вядомыя беларускія праваслаўныя дзеячы Мялецій Сматрыцкі і Лівонцій Карповіч. Фінансавую падтрымку выданню аказаў князь Багдан Агінскі.

Такім чынам, нам ёсць чым ганарыцца — першы ў свеце «Буквар» прыдумалі нашы продкі. А сёння з «Буквара» пачынаецца дарога ў свет ведаў многіх дзетак не толькі ў Беларусі, але і ў многіх краінах свету, а назва «Буквар» увайшла ў сучасныя беларускую, рускую, украінскую, балгарскую, баснійскую мовы, а таксама ў абхазскую, аварскую, адыгейскую, айроцкую, алеутскую, балкарскую, гагаузскую, дагестанскую, далганскую, даргінскую, хакаскую, ханту, цыганскую, чувашскую, чукоцкую, эвенкійскую і іншыя!!!

Сёлета мы маем унікальную магчымасць адсвяткаваць 400-годдзе «Буквара», беларускага «Буквара». Асноўныя мерапрыемствы да гэтага важнага юбілею пройдуць у канцы жніўня і пачатку верасня — да Дня ведаў і Дня беларускага пісьменства. Аднак забыцца пра сённяшнюю дату было б зусім няправільна.

**Алесь Суша**

ДАПАМОГА

# СОЦИАЛЬНАЯ ПОДДЕРЖКА МНОГОДЕТНЫМ СЕМЬЯМ

**В Витебском районе ей смогут воспользоваться 353 многодетные семьи. Об этом сообщил начальник управления по труду, занятости и социальной защите райисполкома — председатель постоянной комиссии районного Совета депутатов по вопросам социальной сферы, социальной защиты населения и делам молодежи Василий Гончаров на очередной сессии районного Совета депутатов 28-го созыва.**

Выплата единовременной материальной помощи в размере 30,00 рублей на каждого учащегося, обучающегося в учреждениях общего среднего и специального образования (на уровне общего среднего), осуществляется в соответствии с Государственной программой «Здоровье народа и демографическая безопасность Республики Беларусь» на 2016-2020 годы и будет производиться за счет средств районного бюджета.

На 12 июля на территории района 376 семей имеют статус многодетной. В 353 из них воспитываются 698 детей-школьников.

По вопросу выплаты единовременной материальной помощи к учебному году семьям, зарегистрированным и проживающим в Витебском районе, необходимо обращаться с письменным заявлением в управление по труду, занятости и социальной защите Витебского райисполкома по адресу: г. Витебск, ул. Комсомольская, д. 16. Прием документов осуществляется в кабинете № 16. Консультацию можно получить по телефону 65-02-84.

— К заявлению прилагаются: паспорт или иной документ, удостоверяющий личность заявителя; справка о месте жительства и составе семьи; свидетельства о рождении детей; справки из учреждения образования, подтверждающие получение образования в учреждениях общего среднего и специального образования (на уровне общего среднего образования), — пояснил Василий Гончаров.

По его словам, помощь в сборе портфелей несовершеннолетним окажут и семьям, в которых воспитываются дети-инвалиды.

Традиционно в преддверии нового учебного года в районе стартует благотворительная акция «Соберем детей в школу». Цель масштабной кампании — сбор школьной одежды, обуви, книг, письменных и спортивных, канцелярских принадлежностей, учебных пособий для ребят из многодетных и малоимущих семей, детей-сирот, инвалидов. Предприятиям рекомендуют оказать посильную помощь семьям работников, в которых воспитываются несовершеннолетние, чтобы последние смогли наравне со сверстниками почувствовать светлое праздничное настроение, радость встречи со школой.

**Татьяна Диканова "Жыццё Прыдзвіння"**

АДРАДЖЭННЕ

# ЗАКРЫЛІ КРАМУ ТАВАРАЎ З БЕЛАРУСКАЙ СЫМБОЛІКАЙ

**Крама праіснавала менш за год. Паводле заснавальнікаў, праца ў Віцебску ішла цяжка: пакупнікоў было мала і яны былі незаможныя. Не ўратавалі становішча ні мастацкія акцыі, якія ладзіліся ў краме, ні іншыя захады, каб зрабіць яе больш папулярнай.**

**У Віцебску людзі небагатыя**

Летась берасьцейцы Сяргей Байко і Алег Чапараў адкрылі краму «Князь Вітаўт» у родным горадзе, а праз колькі месяцаў — і ў Віцебску. Спадзяваліся, што тавары, папулярныя на захадзе Беларусі, будуць карыстацца попытам і ва ўсходнім рэгіёне. Але давялося адчуць, што жыхары Віцебску менш заможныя, гаворыць Чапараў.

«Напачатку мы падлічылі, што трэба нагандляваць у дзень хаця б на 300 рублёў. Але было такое, што куплялі ў дзень і на 8 рублёў, і на 150. Вядома ж, перад Новым годам, калі пакупніцкі бум, то атрымлівалася і тысяча рублёў, і болей. Але мы адчулі розьніцу зь Берасьцем: віцябляне відавочна бяднейшыя. Тут нехта можа сабе дазволіць толькі адну новую майку за лета, а ў Берасьці — тры», — кажа ён.

Заўважыўшы такую тэндэнцыю, адміністрацыя крамы шукала выйсьця са складанага становішча. Найперш знайшлі месца з таньнейшай арэндай. Таму «Князь Вітаўт», адкрыўшыся ў асобным памяшканьні на вуліцы Фрунзэ, мусіў пераехаць у гандлёвы комплекс «Марка-Сіці».

**Тут меней турыстаў, чым у Берасьці**

Чапараў параўноўвае ўмовы працы ў Берасьці і ў Віцебску, прычым не на карысьць апошняга:

«У Берасьці месца лепшае — пешаходная вуліца, што вельмі спрыяе гандлю, — разважае ён. — Па Савецкай вуліцы ідзе і ідзе натоўп людзей, турыстаў значна больш — а гэта асноўныя пакупнікі, бо яны імкнуцца набыць беларускія сувэніры, падарункі. У Віцебску мы такога ня бачылі, хоць і пераехалі на цэнтральную вуліцу Леніна. У віцяблянаў няма грошай — гэта адразу відаць. Але кошты за арэнду такія высокія, што ў Берасьці пра такія ня чулі».

Паводле Чапарава, прымальны кошт арэнды знайшоўся толькі на самым ніжнім паверсе «Марка-сіці», куды далёка ня кожны наведнік дойдзе. Таму прывабіць пакупнікоў спрабавалі з дапамогай рэклямы: запрашалі выступіць музыкаў, ладзілі выязны гандаль на розных мерапрыемствах, аўтограф-сэсіі і нават мастацкія акцыі — напярэдадні Дня Волі чыталі ў фае гандлёвага цэнтру вершы Багдановіча і прапаноўвалі купоны на зьніжкі. Але нічога не дапамагло: прыбыткаў не пабольшала, і краму давялося закрываць.

**Застанецца інтэрнэт-крама**

Заснавальнікі «Князя Вітаўта» вельмі шкадуюць, што ў віцебскай крамы аказаўся такі кароткі век: адчыніўшыся летась 26-гажніўня, яна праіснавала менш за год.

Але зьбядненьне віцяблянаў — гэта ня іхная віна, лічыць Алег Чапараў. Таму ў нядаўна створанай інтэрнэт-краме http://kniaz.by/ для жыхароў Віцебску прадугледжана адмысловая зьніжка: бясплатная дастаўка тавараў на суму ад 30 рублёў. Для жыхароў іншых гарадоў — толькі ад 50.

Стваральнае інтэрнэт-крамы стала ўвасобленай даўняй марай заснавальнікаў, але яны не адмаўляюцца і ад ранейшага фармату. Пасьля няўдачы ў Віцебску не выключаюць, што наступную краму адкрыюць у Менску.

**БС, РС**

СТАТЫСТЫКА

# ЗА ПОЛГОДА ПОГИБЛИ 230 ЧЕЛОВЕК

**За первую половину 2018 года в Витебской области 230 человек умерли от внешних факторов, такую статистику сообщили на заседании коллегии областной прокуратуры.**

Почти половина из умерших — 107 человек — отравились алкоголем, 58 человек сгорели на пожарах, что также в большинстве случаев связано с пьянством, 28 жителей области погибли в ДТП (14 из них произошли по вине пьяных водителей), еще 26 человек утонули, 11 человек погибли в результате несчастных случаев на производстве.

Напомним, что в 2017 году в результате дорожно-транспортных происшествий, пожаров, утоплений и несчастных случаев лишились жизни 1172 жителя Витебской области, в том числе — 27 детей.

Что касается криминогенной обстановки, то прокуратура отмечает уменьшение краж, разбойных нападений, грабежей стало на четверть меньше, чем в первом полугодии 2017 года. В тоже время почти в полтора раза больше зафиксировано хулиганских проявлений.

При этом в 9 районах области зафиксирован рост преступности, наиболее значительный отмечается в Докшицком (+18,9%), Браславском (+16,5%), Витебском (+13,3%) и Россонском (+11,4%) районах.

Приведём несколько примеров происшествий в Витебском районе, которые по счасливой случайности не окончились фатально для всех участников.

17 июля 2018 года в 15:40 в агрогородке Вороны третьеклассник на велосипеде неустановленной марки попал под автомобиль, у мальчика сломана рука.

Как сообщает пресс-служба Государственный комитет судебных экспертиз, школьник отвлекся от управления велосипедом и непроизвольно выехал на полосу встречного движения. Там велосипедист столкнулся с двигавшейся навстречу легковушкой «Жигули». В результате этого дорожно-транспортного происшествия ребенок получил перелом лучевой кости левой руки.

Под Витебском ночью 18 июля, в 02.10, вблизи Вороновского кольца пешеход погиб под колёсами фуры. Об этом сообщили в пресс-службе МВД. По предварительной информации, 39-летний водитель фуры ехал в направлении Витебска и совершил наезд на шедшего в попутном направлении по проезжей части дороги 37-летнего мужчину. В результате ДТП пешеход от полученных травм умер на месте происшествия. РОСК возбудил уголовное дело по ч. 2 ст. 317 УК Беларуси (Нарушение ПДД или эксплуатации транспортных средств, повлекшее по неосторожности смерть человека).

Как сообщили в Государственном комитете судебных экспертиз по Витебской области, назначены судебно-медицинская, в том числе судебно-химическая экспертиза по определению наличия в крови погибшего алкоголя и наркотических веществ, трасологическая и автотехническая экспертизы по определению возможности у водителя предотвратить наезд в сложившейся дорожной ситуации.

21 июля вечером в деревне Дреколье Витебского района водитель Mercedes пытался скрыться от ГАИ и влетел в дерево. 26-летний водитель Mercedes-Benz S500 не выполнил требование сотрудника ГАИ об остановке и продолжил движение в направлении деревни Хайсы. На закруглении дороги вправо мужчина неправильно выбрал скорость движения, не справился с управлением и выехал за пределы проезжей части, где совершил наезд на дерево. Пассажир Mercedes, ехавший на заднем сиденье, получил тяжелейшие травмы и был госпитализирован.

**А.Адамов**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЧАМУ ТАК СКЛАДАНА АСВОЙВАЦЬ ЧУЖЫ ДОСВЕД

**Якія праблемы ў нас абмяркоўваюцца на вышэйшым узроўні? Захаванне тэхналагічнай дысцыпліны пры нарыхтоўцы кармоў, неабходнасць замены кіраўнікоў прадпрыемстваў, няздольных «цягнуць», фірмовы заклік «закручваць гайкі». Архаіка на маршы. І маршу гэтаму хутка пойдзе 25-ы год.**




Падставай для напісання гэтай «Азбукі паліталогіі» сталі навіны з інтэрнэту. Прыводжу яе цалкам: «Прэм'ер-міністра Канады аштрафавалі на сто долараў за тое, што ён не задэклараваў сонечныя акуляры, падораныя яму кіраўніком адной з канадскіх правінцый. Такое рашэнне прыняў назіральны орган па этыцы, — паведамляе Сі-Бі-Сі. — Прэс-сакратар Джасціна Трудо патлумачыла, што ён не задэклараваў акуляры з-за адміністрацыйнай памылкі, а дакладней, няправільна запоўніў форму дэкларацыі. Паводле мясцовага заканадаўства, прэм'ер абавязаны на працягу 30 дзён паведамляць аб атрыманых падарунках, кошт якіх перавышае дзвесце долараў».

Пацешная гісторыя, пагадзіцеся. Прапаную здзейсніць разумовы эксперымент — перанесці сітуацыю на родную глебу, на якой пышна квітнее так званая «беларуская ма-дэль». Ажыццявіць гэты эксперымент вельмі проста. Для гэтага дастаткова ўсяго толькі прозвішча прэм'ер-міністра Канады замяніць на ўсім нам добра знаёмае. Замянілі?

Атрыманы вынік лепш за ўсё апісаць словам «аксюмаран» (літаральна «вострае глупства», ад старажытнагрэчаскага «ὀξύς» — «востры», «пранізлівы» + «μωρός» — «неразумны», «дурны»). Аксюмаран нярэдка выкарыстоўваецца ў назвах літаратурных твораў: «Гарачы снег», «Жывы нябожчык», «Мёртвыя душы», «Маленькі гігант вялікага сексу».

**Дзве функцыі дэмакратыі**

Дэмакратыі ў Беларусі не менш, чым у Еўропе. Праблема не з дэмакратыяй. Праблема з памяццю. Для тых, хто сумняваецца, працытую адзінага палітыка (АП): «Самае галоўнае — гэта лішні раз нагадваць усім нам у краіне і за яе межамі аб дэмакратычнасці нашага дзяржаўнага ладу». Сказана гэта было не выпадкова, а на цырымоніі прывядзення да прысягі суддзі Канстытуцыйнага суда Віктара Рабцава (2 лютага 2017 года).

АП характарызаваў прызначэнца як вядомага навукоўца і практыка. Адсюль яго ўпэўненасць у тым, што гэта (прызначэнне) паслужыць напамінам гораду і свету аб дэмакратычнасці Беларусі. Адначасова, абвясціўшы свой варыянт пераліку правоў чалавека, ён узваліў на сябе нялёгкую ношу галоўнага інспектара па іх выкананні…

Палітычныя правы — гэта перш за ўсё права выбіраць сабе ўладу і мяняць яе ў выпадку неабходнасці. Таму паняцці «палітычныя правы» і «дэмакратыя» з'яўляюцца сінонімамі. Адкрыем кнігу «Дэмакратыя і рынак» польска-амерыканскага палітолага Адама Пшэворскага: «Дэмакратыя — такі палітычны лад, у якім кіруючая партыя можа прайграць выбары».

У дэмакратыі дзве асноўныя функцыі: абмежаванне часу знаходжання кіраўніка на пасадзе (каб знізіць верагоднасць яго перараджэння ў тырана) і стварэнне легітымнага канкурэнтнага асяроддзя, без якога для грамадзян немагчыма фарміраванне прасторы выбару (перамены курсу).

Мне пашанцавала: літаральна днямі на сваім любімым аналітычным сайце republic.ru я прачытаў артыкул кансультанта па арганізацыі бізнесу ў Кітаі Уладзіміра Нявейкіна «Кітай развіваецца вельмі хутка». Прывяду фінальную частку апошняга абзаца: «Калі Дэн Сяапін ладзіў свае рэформы, то адной з галоўных небяспекаў на іх шляху лічылі не дэфіцыт добрых праграм, не, іх можна напісаць колькі заўгодна. Галоўная праблема — супярэчнасць паміж індывідам і грамадствам. Акадэмія грамадскіх навук Кітая тады правяла цікавае даследаванне і не знайшла за ўсю гісторыю чалавецтва ніводнага прыкладу, калі б кіраўнік пасля 10 гадоў кіравання краінай прыносіў ёй карысць. Да 10 гадоў былі розныя варыянты. Пасля — толькі адзін».

**Архаіка на маршы**

Беларусь не стаіць убаку ад галоўнай дарогі чалавецтва. Пытанне толькі ў тым, з якой хуткасцю яна па гэтай дарозе рухаецца. На жаль, наша месца размешчана нашмат бліжэй да хваста калоны, чым да яе галавы. Але глытаць пыл, што ўздымаюць дынамічныя краіны-лідары, нам не наканавана. Адставанне такое вялікае, што пыл паспявае асесці…

Кітайцы, якія прызвычаіліся думаць стагоддзямі і тысячагоддзямі, тым не менш абмяжоўвалі знаходжанне адной асобы на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе двума тэрмінамі. Мне запярэчаць, што гэты запавет Дэн Сяапіна паспяхова пераадолены цяперашнім кіраўніком Паднябеснай. Сапраўды, гэта так. Аднак уяўленні нямецкага філосафа Фрыдрыха Ніцшэ пра волю да ўлады як пра базавы інстынкт жыцця яшчэ нікому не ўдалося абвергнуць. Без улады не можа існаваць ні адно грамадства, нават на ўзроўні сельскай абшчыны. Але, як кажуць палякі, «Co zanadto, to nie zdrowo». Таму наступствы палітычнай інавацыі па зняцці канстытуцыйнага абмежавання на колькасць тэрмінаў для старшыні КНР, што была прынятая на XIX з'ездзе КПК, не прымусяць сябе доўга чакаць.

За прыкладамі кітайскім таварышам далёка хадзіць не спатрэбіцца. У Беларусі аналагічнае канстытуцыйнае абмежаванне было знятае на рэферэндуме ў 2004 годзе, акурат да дзесяцігадовага юбілею АП. І ўжо праз два гады «беларуская мадэль» дасягнула свайго піку. Але гэта не падстава для радасці, бо дасягненне піка (вышэйшая кропка) азначае пачатак спуску. Што на

*(працяг на стар. 4)*

БЕЗНАДЗЕЙНАСЦЬ.БАЙ

# ГАДЗІНЬНІК, ЯКІ СПЫНІЎСЯ 24 ГАДЫ ТАМУ

**Людзям майго пакаленьня на працягу жыцьця двойчы выпала доля жыць у пэрыяд застою. У старажытным Кітаі адным з самых страшных праклёнаў на адрас ворага было: «Каб ты жыў у эпоху пераменаў». Здаецца, сёньняшняя Беларусь падорыць сьвету новую мудрасьць.**

Чыста беларускі праклён гучыць так: «Каб ты другі раз у жыцьці трапіў у эпоху застою, па нейкай злой недарэчнасьці названага „стабільнасьцю“».

**Чаму ўзьнікла беларуская мадэль**

Безумоўна, прыход Аляксандра Лукашэнкі да ўлады 24 гады таму нельга лічыць выпадковасьцю. Ён толькі ўдала асядлаў тыя грамадзкія трэнды, якія моцна разьвіваліся ў першай палове 1990-х гадоў. Маладая краіна не была гатовая да глыбокай трансфармацыі пасьля краху камуністычнага ладу. Савецкая сацыяльная мадэль у Беларусі аказалася больш эфэктыўнай, чым у іншых рэгіёнах СССР, і яе разбурэньне выклікала тут большае незадавальненьне насельніцтва. Высокая канцэнтрацыя буйных прадпрыемстваў вымагала ад уладаў захоўваць іх працу як умову сацыяльнай стабільнасьці ў краіне. Большасьць беларусаў разумела абвешчаную Міхаілам Гарбачовым перабудову як стварэньне больш справядлівай патэрналісцкай дзяржавы, і таму яе крах на пачатку 1990-х гадоў выклікаў моцнае расчараваньне.

Аляксандар Лукашэнка на першых прэзыдэнцкіх выбарах добра адчуў гэтыя грамадзкія настроі і прапанаваў свой адказ. Гэта ўсталяваньне моцнай улады, навядзеньне парадку, захаваньне дзяржаўнай уласнасьці, барацьба зь бізнэсоўцамі і намэнклятурай, саюз з Расеяй і рэінтэграцыя постсавецкай прасторы. Згаданая праграма была альтэрнатыўнай таму курсу на рэформы, які рэалізоўваўся ва ўсіх посткамуністычных краінах.

Самае цікавае, што Аляксандру Лукашэнку сапраўды ўдалося рэалізаваць асноўныя пункты сваёй праграмы. Чысьціня экспэрымэнту была дасягнута ня толькі яго працягласьцю, але і ў пэўным сэнсе ўпартасьцю галоўнага экспэрымэнтатара, зачараванага ягонай вонкавай прыгажосьцю. Настаў час падводзіць вынікі.

**Вынікі беларускага экспэрымэнту**

Не аднойчы я чуў ад дыпляматаў постсавецкіх краін фразу: затое вы захавалі прамысловасьць! Я адказваю: так, але якую цану за гэта заплацілі! Самая высокая інфляцыя і неаднаразовая дэвальвацыя — рэкордныя ня толькі на постсавецкай прасторы, але, фактычна, у сьвеце за апошнія два дзясяткі гадоў (калі вынесьці за дужкі анамаліі Зымбабвэ і Вэнэсуэлы). Фактычнае спыненьне эканамічнага росту. Узровень заробкаў застыў на адзнацы 2009 году. Гэтая захаваная савецкая прамысловасьць павольна памірае, атручваючы ўвесь эканамічны арганізм.

Паводле інфармацыі Нацбанку, безнадзейная запазычанасьць дзяржпрадпрыемстваў перад банкамі склала 14% у адносінах да ВУП (каля 7 млрд даляраў). У 2001 годзе сярэдняя пэнсія ў Беларусі складала 45% ад сярэдняга заробку, а ў 2018 годзе — толькі 36%. Гэта пры тым, што Беларусь атрымлівае даволі значныя расейскія датацыі і кожны год, каб захоўваць сацыяльнае статус-кво, бярэ ўсё новыя замежныя крэдыты. Тое, што дзяржаўная прапаганда называе стабільнасьцю, даўно ператварылася ў мяртлівы застой.

Сацыяльная дзяржава? Што ад яе застаецца пасьля росту пэнсійнага ўзросту, падвышэньня тарыфаў ЖКГ, ліквідацыі шматлікіх ільготаў? Ва ўсім сьвеце беспрацоўным дзяржава дапамагае, і толькі ў беларускай «сацыяльнай дзяржаве» людзей, якія страцілі працу, абвяшчаюць «дармаедамі» і абкладваюць дадатковым паборамі.

**«Паліцэйская дзяржава»**

Канцэпт моцнай улады лягічна трансфармаваўся ў клясычную «паліцэйскую дзяржаву». Дзе ўсіх нязгодных з ходу б'юць дубінкай па галаве. Дзе работнікам сілавых структураў дазволена ўсё. Дзе суды ператварыліся ў канвэер па штампаваньні абвінаваўчых прысудаў. Дзе каля паловы дарослага насельніцтва кожны год прыцягваецца да адміністратыўнага пакараньня. Дзе чыноўнікаў і бізнэсоўцаў садзяць у турму часьцей, чым апазыцыянэраў. Дзе бацьку, які захапіў дачку ў закладніцы, адразу застрэльваюць без усялякіх развагаў і сантымэнтаў.

«Моцная рука дазваляе нам захоўваць незалежнасьць», — заяўляе праўладны палітоляг Пётра Пятроўскі. Дзіўна, але як гэта ўдаецца захаваць незалежнасьць невялікім дэмакратычным краінам?

Шмат гадоў Лукашэнка ганарыўся, як спрытна яму ўдаецца «разводзіць на бабкі» крамлёўскіх. Але пасьля Крыму і Данбасу выявіўся і адваротны бок гэтай расейскай «халявы». Тут зноў дарэчы ўзгадаць кітайскую прымаўку: «Сеў на тыгра — ня зьлезеш» (бо зьесьць). Адсюль і вядомая выснова, якая прагучала з вуснаў кіраўніка Беларусі ў Шклоўскім раёне пасьля перамоваў з Пуціным: «Мы на фронце. Ня вытрымаем гэтыя гады, правалімся, значыць, трэба будзе ці ў склад якой-небудзь дзяржавы ісьці, ці аб нас проста будуць выціраць ногі». І чаму ж не дапамагае «моцная рука»?

І яшчэ адным пабочным вынікам «навядзеньня парадку» стаў пэрсаналісцкі аўтарытарны рэжым, у межах якога грамадзтва пазбаўлена права ўплываць на дзяржаўную палітыку. І як вішанька на торце — усё харaство наступстваў рэжыму асабістай улады, які ўсё больш нагадвае ўсходнія матывы. Гэта калі другой мэдыйнай пэрсонай у краіне стаў сын кіраўніка Коля. Ці калі Аляксандар Рыгоравіч усё часьцей зьяўляецца на публіцы ў атачэньні прыгожых дзяўчат, якія суправаджаюць яго і ў працоўных паездках, ён нават у якасьці жарту прапануе адной зь іх («дзетка») стаць кіраўніком аграхолдынгу. Які час на двары, такія і жарты.

Але беларусам чамусьці ня сьмешна. Бо ёсьць адчуваньне часу, які спыніўся, і страты ўсялякай пэрспэктывы. Безнадзейнасьць кропка бай.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

(пачатак на стар. №3)

практыцы і назіраецца.

**Тры шляхі**

Калі ўжо гаворка пра Кітай, то быў бы грэх не звярнуцца па каментар да Канфуцыя. Прыдатную цытату ў стагоддзе інтэрнэту знайсці нескладана: «Тры шляхі вядуць да ведаў: шлях разважанняў — гэта шлях самы высакародны, шлях пераймання — гэта шлях самы лёгкі, і шлях вопыту — гэта шлях самы горкі».

Першы шлях галоўнаму архітэктару «беларускай мадэлі» глыбока чужы, пра што ён з гонарам рэгулярна і заяўляе.

Абмяжуюся адной цытатай: «Цалкам неплацежаздольным апынуўся і наш ідэалагічны штаб — Адміністрацыя прэзідэнта. Нарады, даручэнні, аўтарскія калектывы, справаздачы — і нічога на выхадзе. Той жа фармалізм.

У гэтых умовах кіраўніку дзяржавы давялося брацца ўсё на сябе і, ідучы ад жыцця (выдзелена. — С.Н.), а не ад тэорыі, закладваць у фундамент беларускай незалежнай дзяржаўнасці ідэі, народжаныя і выпакутаваныя нашым народам».

Так вобразна і ярка апісаны падыход да фарміравання дзяржаўнай ідэалогіі — гэта аналаг шляху вопыту паводле Канфуцыя. Ён апынуўся самым горкім для беларусаў, бо замест ідэалогіі стварылі яшчэ адзін орган па кантролі за добранадзейнасцю грамадзян у асобе ідэалагічнай «вертыкалі». Натуральна, за грошы грамадзян. Вось такі ненавязлівы ідэалагічны сэрвіс.

Асабіста я не супраць ідэалогіі, але толькі той, мэтай якой быў бы прымус дзяржавы да адказнасці. Здавалася б, нічога выдумляць для гэтага не трэба. Ёсць шлях пераймання. Самы лёгкі шлях паводле Канфуцыя. Нездарма ж я пачаў «Азбуку паліталогіі» з гісторыі прэм'ер-міністр Канады, якога аштрафавалі на сто долараў за тое, што ён не задэклараваў сонечныя акуляры.

На жаль, па той жа прычыне, па якой мы не пераймаем кітайскі і сінгапурскі досвед эканамічнага прарыву краіны з трэцяга свету ў першы. Для паспяховага капіявання кітайскага досведу беларусам неабходна стаць кітайцамі. Для капіявання канадскага вопыту — канадцамі…

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ЧАРГОВАЯ НАРАДА

# ЛУКАШЕНКО ПОПАЛ В ЛОВУШКУ…

**«Зарплата чиновников — это на конфеты внукам или любовницам на чулки. Остальное они зарабатывают на других ресурсах». Известный экономист рассказал, в какую ловушку попал Лукашенко.**

На совещании, посвященном вопросам повышения престижа госслужбы, глава государства поделился негативной тенденцией: подбор кандидатов на вакантные должности затягивается на месяцы, а то и годы.

Лукашенко напомнил о жесточайших требованиях к госслужащим: «За нарушения уходишь с должности — идешь в тюрьму».

Президент поинтересовался у членов правительства, как привлечь самых лучших и опытных управленцев и предупредил:

— Если вы пришли ко мне с предложениями о повышении денежного довольствия и зарплат госслужащим, даже не поднимайте этот вопрос, он раз и навсегда решен.

**Почему Лукашенко пугает госслужащих? *Пряники для чиновников закончились, и остался лишь кнут?***

— На самом деле пряников достаточно много для органов госуправления оставлено. Лукашенко просто запугивает, — заявил в интервью «Салідарнасці» руководитель Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук.

Экономист отметил, что доходы системы госуправления превышают 45 % ВВП, плюс платежи, которые составляют около 5 % ВВП.

— Половина экономики проходит через руки чиновников. Кроме того, около 80 % активов находится в руках распорядителей чужого, и они могут раз в год посклонять головы, рассматривая свои носки, понимая, что, сколько бы Лукашенко ни говорил про зарплаты, их зарплата — это на конфеты внукам или любовницам на чулки. Остальное они зарабатывают на других ресурсах, что мы и видели по Минздрав-гейту.

Если бы он сказал: «Все, друзья, с завтрашнего дня функционал меняется, меняются бюджеты, мы вводим экономическую конституцию с ограничением госрасходов на уровень 25 % ВВП. Мы ликвидируем весь чиновничий бизнес, то есть те структуры, которые были учреждены министерствами и ведомствами. Вот тогда бы что-то дошло до руководства страны, и власти начали реально бороться с коррупцией и заботиться о качестве госуправления.

**«С таким функционалом даже ангел становится коррупционером»**

Экономист напомнил о том, что Лукашенко неоднократно за последние три года неоднократно говорил о необходимости радикально сократить функции и ликвидировать конфликт интересов органов госуправления.

— Ни первое, ни второе не было сделано. Кого бы ни подбирали на эти должности — все пустое. С таким функционалом даже ангел становится коррупционером за 12-18 месяцев. Потому что система не имеет сдержек и противовесов, отсутствует система независимого контроля.

По мнению Романчука, тот факт, что не могут найти кандидатуры в «вертикаль», говорит: никто не хочет сидеть, быть в системе круговой поруки, быть замазанным коррупцией.

— Как Лукашенко оценивает премьер-министра, вице-премьера, министров? За состояние здравоохранения, образования, сельского хозяйства давным-давно нужно было уволить весь тот кадровый состав, провести конкурс, через кадровое агентство набрать профессионалов и поставить им четкие задачи.

**«Лукашенко сделал ставку на советскую систему управления, но без советских рычагов»**

Эксперт уверен: глава государства сам виноват, какую команду он сформировал.

— Почему-то многие люди в этой команде, особенно идеологи и пропагандисты (в частности, Мясникович, Семашко, Русый, Калинин), более двадцати лет. Можно ротировать секретарш, начальников департаментов, но фундаментально люди, которые определяли политику 20 лет назад и сегодня, одни и те же.

Если бы они слушали альтернативные точки зрения, было требование сделать научно-обоснованную политику — это одно. У них фундаментальный принцип — показушная лояльность. Лояльный далеко не всегда профессионал.

Лукашенко попал в ловушку, считает Ярослав Романчук:

— Он сделал ставку на советскую систему управления, но без советских рычагов: без партии, без системы контроля чиновников, которым коттедж меньше миллиона долларов не предлагай, и Лэнд Крузер — не ниже.

Вертикаль и все окружение обросли коммерческими связями, не развиваются профессионально. Академия наук, которая должна была стать профессиональной кузницей кадров, на самом деле превратилась в штамповочный цех корок и дискредитацию высшего образования.

Надо менять модель, систему управления, мотивацию, структуру собственности, заключает экономист.

— Главное — вводить народную экономику, а не продолжать работать в режиме номенклатурно-краснодиректорских кланов.

**Татьяна Гусева**
**"Салідарнасць"**

СУДОВЫ АКСЮМАРАН

# КАМУНІЗМ = ФАШЫЗМ…

**На мінулым тыдні адбыўся вельмі паказальны адміністрацыйны працэс. Судзілі нашага аўтара, экс-палітвязня і анархіста Мікалая Дзядка. Судзілі яго нібыта за «распаўсюд нацысцкай сімволікі». Дзядок быў прызнаны вінаватым і атрымаў штраф у памеры 10 базавых велічынь.**

Увогуле, судзіць анархіста за прапаганду нацызму — гэта аксюмаран. Анархісты па змоўчванні з'яўляюцца найбольш радыкальнымі антыфашыстамі. Але начальнік трэцяга аддзялення па супрацьдзеянні экстрэмізму ГУБАЗіК Міхаіл Бедункевіч, даследаваўшы профілі Дзядка ў сацсетках, знайшоў там выявы свастыкі. Суд, не ўлічыўшы кантэкст, выявіў, вынес вырак.

У гэтым працэсе ёсць два цікавыя моманты, вартыя пільнай увагі. Першы момант: працэс Дзядка не быў адзіным. Адначасова з ім судзілі за «распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў» актывістку Марфу Рабкову. У той жа час за такі ж «распаўсюд нацысцкай сімволікі» ў Гомелі пад суд трапіў відэаблогер Арцём Шапараў.

Ва ўсіх гэтых працэсах абвінавачванне — даволі нацягнутае. Шапараў «апрануў» у размытую нацысцкую форму дырэктара школы, Рабкова змясціла ў сацсетках толькі фотакалаж з шапкай «Class War». Прычым на момант змяшчэння, гэты выраз не быў прызнаны экстрэмісцкім. Падаецца, што ў краіне пачалася кампанія, мэта якой — выставіць сацыяльных актывістаў як прыхільнікаў фашызму, і, такім чынам, дыскрэдытаваць іх у вачах грамадскасці.

Напэўна, у адрозненне ад тых жа актывістаў, улада вельмі пільна глядзіць на каляндар. Актывісты, занятыя Курапатамі і Мундыялем, неяк забыліся, што ў 2019 годзе павінны прайсці парламенцкія выбары, якія могуць быць сумешчаныя з прэзідэнцкімі. І, хутчэй за ўсё, такія спробы дыскрэдытацыі сацыяльных актывістаў можна лічыць пачаткам падрыхтоўкі да палітычных кампаній, якія нас чакаюць ужо восьвось.

Дарэчы, хвалю рэпрэсій перад выбарамі, скіраваную найперш на сацыяльных актывістаў, прарочыў сам Дзядок у артыкуле «Прэзідэнцкія выбары: як гэта будзе», апублікаваным яшчэ ў красавіку гэтага года. Можа стацца, што, «працэсы за нацызм» як падмурак па дыскрэдытацыі актывістаў — гэта пачатак.

Вельмі важны і другі момант. Свае 10 базавых штрафу Дзядок атрымаў у тым ліку і за калаж, змешчаны ў «НЧ» з нагоды «Дня чорнай стужкі» — Агульнаеўрапейскага дня памінання ахвяраў сталінізму і нацызму. На гэтым калажы свастыка перацякае ў серп і молат. У артыкуле, да якога калаж быў ілюстрацыяй, прыводзіліся факты падабенства савецкага і нацысцкага рэжыму і дыскуталавалася пытанне: чаму нацызм асуджаны, а камунізм — не?

Персанальна я супраць прыроўнівання савецкіх сімвалаў да нацысцкіх. Так, і той, і той рэжымы — крывавыя. Але СССР усё ж даваў беларусам хоць маленькія шанцы на выжыванне. У ім існавала хоць фармальная, але БССР. У ім фармальна, але прысутнічала права на беларускамоўнае навучанне, існавала беларуская мова, культура, пісьменніелі... Нацысцкімі ж планамі існаванне беларусаў (і габрэяў, і іншых славянаў) не прадугледжвалася ўвогуле. Як ні банальна, але «дзяды ваявалі», і пад «сярпаста-малаткастым» пазбавілі нас ад фізічнага вынішчэння з боку «чыстых арыйцаў».

Але маё дыскусійнае меркаванне больш нікога не хвалюе. Па Канстытуцыі, у нас у краіне тры галіны ўлады — выканаўчая, заканадаўчая і судовая. Судовая галіна ўлады «імем Рэспублікі Беларусь» (гэта значыць — ад усіх нас, і ад майго імя таксама) вызнала, што серп і молат, будучы неад'емнай часткай калажу, з'яўляецца сімвалам, як мінімум прыроўненым да нацысцкага. Такім чынам, Дзядок атрымаў 10 базавых не толькі за свастыку, але і за серп і молат.

Беларуская хрысціянская дэмакратыя і Павел Севярынец з нагоды прысуду Дзядку павінны пляскаць у ладкі — яны доўга змагаліся за асуджэнне камунізму і забарону савецкіх сімвалаў. Нечакана для сябе, дамагліся. Хоць у нас у краіне і не распаўсюджанае прэцэдэнтнае права, але асуджэнне Дзядка ў тым ліку за сімвалы СССР дае падставу лічыць іх такімі ж, як нацысцкія.

Што далей? Забарона Камуністычнай партыі Беларусі, якая ўтрымлівае серп і молат у сваёй сімволіі? Дэмантаж савецкіх помнікаў, якія ўтрымліваюць серп і молат? Па логіцы вынікае так.

**Сяргей Пульша**
**https://novychas.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сенненская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 30.07.2018 у 16.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.